# ED BRUBAKER
WRITER

# STEVE EPTING
ARTIST

## ELIZABETH BREITWEISER
COLORS

## CHRIS ELIOPOULOS
LETTERS

SPECIAL THANKS TO SIDNEY STONE

# VELVET




ПАРЫЖ, 1973


ПАРУ ГАДОЎ ТАМУ ПАСЛЯ АДНАГО З БРЫФІНГАЎ СІМАНСАНА Я ВЫПІВАЎ З ПАРАЧКАЙ ІНШЫХ **Х-АПЕРАТЫЎНІКАЎ**.


ЧЫМ БОЛЬШ МЫ ПІЛІ, ТЫМ ЗМРОЧНЕЙ БЫЛІ НАШЫ ЖАРТЫ, ГІСТОРЫІ СТАНАВІЛІСЯ БОЛЬШ **ГРУБЫЯ**... І Ў ВЫНІКУ ЎСЁ СТАЛА ЗРАЗУМЕЛА...


...У КОЖНАГА З НАС БЫЎ ТАЕМНЫ РАМАН З САКРАТАРКАЙ ДЫРЭКТАРА.
І ЎСЕ МЫ ЛІЧЫЛІ, ШТО МЫ **АДЗІНЫЯ**.


ГРУПА ВЫСОКАКВАЛІФІКАВАНЫХ ШПІЁНАЎ І ЗАБОЙЦАЎ, А ЯНА ВЯРЦЕЛА КОЖНЫМ...


...З ЛЁГКАСЦЮ.


МЕНАВІТА ТАДЫ Я ЗРАЗУМЕЎ, НАКОЛЬКІ НА САМОЙ СПРАВЕ НЕБЯСПЕЧНА **ВЕЛЬВЕТ ТЭМПЛТАН**.


І ШТО НІХТО З НАС **ПА-САПРАЎДНАМУ** НЯ ВЕДАЎ ЯЕ.


КАЛІ Б Я ТОЛЬКІ ПАГУТАРЫЎ З ЁЙ ПРА ГЭТА...


ЗАПЫТАЎСЯ Б ПРА ЎСЕ ШРАМЫ, ЯКІЯ ЯНА ХАВАЕ ТАК УМЕЛА...


ПРА ТОЕ, ШТО **ЯШЧЭ** ЯНА, МАБЫЦЬ, ХАВАЕ.


ЗРАБІ Я ГЭТА, УСЁ Б БЫЛО ПА-ІНШАМУ...


МОЖА...

ДЫРЭКТАР МЭНІНГ РАЗБУДЗІЎ МЯНЕ Ў **ЧАТЫРЫ ГАДЗІНЫ РАНІЦЫ**.

ЗВЫЧАЙНА Я ПРЫХОДЖУ Ў КАНТОРУ ЗАДАЎГА ДА ТАГО, ЯК ПРАЗВАНІЦЬ ЯГО БУДЗІЛЬНІК; ЗНАЧЫЦЬ СТРЭСЛАСЯ БЯДА.

БАЮСЯ, ГЭТА **ДЖЭФЕРСАН...**

АЛЁ?

ДЖЭФЕРСАН КЕЛЕР-Х-АПЕРАТЫЎНІК НУМАР 14... АДЗІН З **"ТЫХ, КАГО НЕ ІСНУЕ"**.

ЦЯПЕР, ЗДАЕЦЦА, ЛІТАРАЛЬНА.

УЖО **ВЫЯЗДЖАЮ**, СЭР.

ПРАКЛЯЦЦЕ... ЁН БЫЎ МАІМ ЛЮБІМЧЫКАМ.


І СПРАВА НЯ ТОЛЬКІ Ў СЭКСЕ.
ЗА ГАДЫ Я КРУЦІЛА СА ШМАТ **Х-АПЕРАМІ**...


НІХТО ТАК НЯ МАЕ АСАЛОДЫ З РАМАНА НА АДНУ НОЧ, ЯК ЧАЛАВЕК, ЯКІ ВОСЬ-ВОСЬ АДПРАВІЦЦА НА ПАТЭНЦЫЯЛЬНА САМАГУБНАЕ ЗАДАННЕ.




АЛЕ ДЖЭФЕРСАН... ЁН БЫЎ ІНШЫ.


З ІМ Я ЎСПАМІНАЛА БЫЛЫЯ ДЗЯНЬКІ...
ШТО САМО ПА САБЕ БЫЛО **НЯ ТАК** СКЛАДАНА...


...АЛЕ ДЖЭФЕРСАН ЗАСТАЎЛЯЎ МЯНЕ ЎСМІХАЦЦА ПРЫ ГЭТЫМ.
ШТО КАШТУЕ ДАРАГОГА.

ARC-7 LONDON HQ - BRIEFING ROOM

**ЛОНДАНСКАЯ ШТАБ-КВАТЭРА АРК-7, ЗАЛА НАРАДЫ.**

ПАРЫЖСКАЯ ПАЛІЦЫЯ ЎЖО **БЫЛА** НА МЕСЦЫ Ў СУВЯЗІ З **АПЕРАЦЫЯЙ** Х-14.

КАНТАКТ З **КТН*** ЗАХАВАЎ СЦЭНУ ЗАБОЙСТВА **НЕКРАНУТАЙ** ДА ПРЫБЫЦЦЯ НАШЫХ ЛЮДЗЕЙ.

*КТН – КІРАЎНІЦТВА ТЭРЫТАРЫЯЛЬНАГА НАГЛЯДУ, ФРАНЦУЗСКАЯ РАЗВЕДВАЛЬНАЯ СЛУЖБА ДА 2008 ГОДА.













КОЛЬТ ЗАРАЗ НА МЕСЦЫ, МАГЧЫМА, У ЯГО БОЛЬШ ІНФАРМАЦЫІ...
ЛАРС, ПАДКЛЮЧЫ Х-33.
ТАК, СЭР, ЗАРАЗ ЖА...


БАЮСЯ, ЛЕЙТЭНАНТ СІМАНСАН МАЕ РАЦЫЮ, ДЫРЭКТАР. ХТОСЬЦІ ЧАКАЎ НАШАГА ЧАЛАВЕКА Ў ЗАСАДЗЕ.
МАРШРУТ АДЫХОДА КЕЛЕРА БЫЎ СКАМПРАМЕТАВАНЫ. ТОЛЬКІ ТАК УСЁ ВЫГЛЯДАЕ ЛАГІЧНА.


ПРАКЛЯЦЦЕ. КАБ ПРАЗ ГАДЗІНУ Ў МЯНЕ БЫЎ ПОЎНЫ РАПАРТ...
ЛЕЙТЭНАНТ, УСІХ, ХТО ШТОСЬЦІ ВЕДАЎ ПРА ГЭТА ЗАДАННЕ, ВЫВУЧЫЦЕ ПАД МІКРАСКОПАМ.


УСІХ... ГЭТА ЗРАЗУМЕЛА?
КАНЕШНЕ, ДЫРЭКТАР. ЗАРАЗ ЖА ЗАГАДАЮ СЯРЖАНТУ РОБЕРТСУ ПРЫМАЦЦА ЗА СПРАВУ.


УСЁ ПРАЙШЛО ПРЫБЛІЗНА ТАК, ЯК Я І ЧАКАЛА...
ЗАЛІШНЕ ПРАФЕСІЙНА... АЛЕ З ЗАТОЕНАЙ ЛЮТАСЦЮ...


ЧАГО І ТРЭБА БЫЛО ЧАКАЦЬ. КАНЕШНЕ, МЫ ПРЫВЫКНУЛІ ДА СМЕРЦІ...
АДНАК СТРАТА **Х-АПЕРАТЫЎНІКА** НА ЗАДАННІ – РЭДКІ ВЫПАДАК.
А КАБ ЁН ТРАПІЎ У **ПАСТКУ?**


ТАКОЕ **НЕ АДБЫВАЕЦЦА.** НЯ З НАМІ.


ТАМУ ШТО АГЕНТЫ **АРК-7** ЛЕПШЫЯ.


ЯНЫ НАСТОЛЬКІ ДОБРЫЯ, ШТО **БОЛЬШАСЦЬ РАЗВЕДАК** СВЕТУ НАВАТ НЯ ЧУЛА ПРА ІХ.


ЦІ КАЛІ ЧУЛІ, ТО ПРЫМАЮЦЬ ХУТЧЭЙ ЗА **ЛЕГЕНДУ**...
"ТАЕМНЫ ПЕРАЖЫТАК" **АСАЦЫІРАВАНАЙ РАЗВЕДВАЛЬНАЙ ГРУППЫ** ДРУГОЙ СУСВЕТНАЙ ВАЙНЫ...


АГЕНЦТВА, ДЗЕ КОЖНАЕ ЗАДАННЕ – САКРЭТНАЯ АПЕРАЦЫЯ...
А КОЖНЫ ДОЛАР ФІНАНСАВАННЯ ЎТОЕНЫ...


АГЕНЦТВА, ЯКОЕ, ЯК УПОТАЙ СПАДЗЯЮЦЦА, ІСНУЕ, ХАЙ ЯНЫ І СМЯЮЦЦА НАД САМОЙ ІДЭЯЙ...
МОЖАШ У ГЭТА ПАВЕРЫЦЬ... ДЖЭФЕРСАН?
НЕ, ЗУСІМ НЯ ВЕРЫЦЦА...


ДАМСКІ ПАКОЙ ПЕРАПОЎНЕНЫ РЫДАЮЧЫМІ САКРАТАРКАМІ...
ТАК, ЯМУ ПАДАБАЛАСЯ ПРЫЎДАРЫЦЬ...


БОЖА... ГЭТА...
ГЭТА ЖУДАСНА...


ТАК, МЭГ, ЖУДАСНА... І ЎСЁ БУДЗЕ ТОЛЬКІ ГОРАЙ...





NEW YORK – 1968

ТЭМПЛТАН, СПАДЗЯЮСЯ, ТЫ НЕ ПЛАНУЕШ СКОКНУЦЬ?

ПАВЕР, ЁСЦЬ КУДЫ **ЛЕПШЫЯ** ШЛЯХІ ДЛЯ ЎЦЁКАЎ...

НАПРЫКЛАД, **"РАТШЫЛЬД"** 45-ГА...

ТАК, **Х-14**, УЖО ЗАЎВАЖЫЛА, ЯК ТЫ ЎСЮ НОЧ УЦЯКАЕШ З ІМ...

...ПАКУЛЬ **ДЫРЭКТАР** АТРЫМЛІВАЕ ПАШАНЫ ЗА ТВАЮ ПРАЦУ.

А... ХАЙ **ПАЦЕШЫЦЦА** З МЕДАЛЕМ.

**МУДЗІЛА.**

ВЕДАЕШ, Я БОЛЕЙ НЕ БЫВАЮ Ў НЬЮ-ЁРКУ, ХІБА ТОЛЬКІ З-ЗА ДЗЁЎБАНАЙ ПРАЦЫ...

Я ПРЫВЫКЛА ЛІЧЫЦЬ ЯГО **СВАІМ** ГОРАДАМ...


Я ПЕРАШКОДЗІЎ АСАБІСТАМУ МОМАНТУ? ДЗЯВОЧЫЯ ЎСПАМІНЫ **ПРА МІНУЛЫЯ ДЗЯНЬКІ**?
НЕ **ДУРЫ**, Х-14...

...Я ЎСЯГО ТОЛЬКІ ШУКАЛА ЗАЦІШНЫ КУТОК, КАБ РАСКУРЫЦЬ КАСЯЧОК, ЯКІ Я ЗАБРАЛА Ў АФІЦЫЯНТА-ХІПАРА.

ТЭМПЛТАН, А Ў МЯНЕ **ЯКРАЗ** ЁСЦЬ ТАКОЕ МЕСЦА...

НЕ... СТОЙ! НЯ ГЭТА!
ГЭТА НЕ ПРЫКУРВАЦЕЛЬ!
Cinema
TRANS
1.59

ТЫ НА РАБОЧАЙ МАШЫНЕ?
АГА, З ПРЫЁМУ НАПРАСЦЯК НА НАСТУПНАЕ ЗАДАННЕ...
ВУНЬ ТОЕ, ПАД РАДЫЁ, ГЭТА ПРЫКУРВАЦЕЛЬ.

SKKKRRRR
HNNK HNNK
**ДЖЭФ!** ЗА ДАРОГАЙ САЧЫ!


ТЭМПЛТАН, **КАЛІ ЛАСКА**... НЯМА ЯШЧЭ НА ВУЛІЦАХ ТАКОЙ МАШЫНЫ, ЯКАЯ Б ЗМАГЛА ПРЫЦІСНУЦЬ НАС, НАВАТ КАЛІ Б ПАЖАДАЛА...


ТАМУ БУДЗЬ **РАЗУМНІЧКАЙ** І ПЕРАДАЙ ЯГО МНЕ.


THE VIOLENT PROFESSIONALS
SHAOLIN VS NINJA
CHERRY BABY
MASSAGE PARLOR MURDERS
POLICE
206
WHHHEEE-OOOO--!!


**УПС**, ЗДАЕЦЦА, ХТОСЬЦІ ЎСЁ Ж СПРАБУЕ...
Х-14, ГАТОВЫ ПАГАНЯЦЬ З **ПАЛІЦЫЯЙ**?


ЗАЎСЁДЫ... ТОЛЬКІ ЗРАБІ МНЕ АДНУ ПАС-ЛУГУ, КАЛІ ЗБОЧЫМ НАПРАВА...
УГУ, ЯКУЮ?


НАЦІСНІ НА ТУЮ ШТУКУ, ЯКАЯ ВЫ-ГЛЯДАЕ ЯК ПРЫКУР-ВАЦЕЛЬ... І **НЕ АДПУ-СКАЙ.**


НАСТУПНЫЯ НЕКАЛЬКІ ДЗЁН ІДУЦЬ ВЕЛЬМІ ДРЭННА... КАНТОРА НАПРУЖАНА І ЗНАХОДЗІЦЦА Ў СМУТКУ...


НА ПАХАВАННІ ДЖЭФА АДБЫЛАСЯ МАЛЕНЬКАЯ ПРЫВАТНАЯ СЛУЖБА...


А ЯГО ІМЯ АДПРАВІЛАСЯ НА НАШУ **СЦЯНУ** – У СУТАРЭННЫМ КАЛІДОРЫ, ЯКІ ВЯДЗЕ ДА РАЗВЕДДАНЫХ...


ТАМ ЯГО ЎБАЧАЦЬ ТОЛЬКІ ТЫЯ, У КАГО ЁСЦЬ **НАЙВЫШЭЙШЫ ЎЗРОВЕНЬ ДОСТУПУ**.
M. JEFFERSON KELLER
1939 - 1973
IN GRATITUDE


**РОБЕРТС**, ШЭФ ВАЕННАГА ПАДРАЗДЗЯЛЕННЯ, ПРАВОДЗІЦЬ **УНУТРАНАЕ РАССЛЕДАВАННЕ**...
СПРАБУЮЧЫ ЎСТАЛЯВАЦЬ, ЦІ ЁСЦЬ У НАС УЦЕЧКА, КРОТ ЦІ ТАК ПРОСТА ЛЯГЛА КАРТА...


Я ПАДКРЭСЛІВАЮ **ВАЖНЫЯ ЧАСТКІ** ЯГО ДАКЛАДАЎ ДЫРЭКТАРУ, ТАМУ ВЕДАЮ, ШТО ЁН НІЧОГА НЕ ДАБІЎСЯ.
ПРОСТА ЗАПУЖАЎ ПАЛОВУ ПЕРСАНАЛА ДА СМЕРЦІ.


РАССЛЕДАВАННЕ КОЛЕРА НА МЕСЦЫ ТАКСАМА НЕ ДАЕ НІЯКІХ ПРЫЧЫН ДЛЯ РАДАСЦІ.
АНАЛІЗ ФОТАЗДЫМКАЎ НАГЛЯДУ, ПОШУК МЫТНЫХ ДЭКЛАРАЦЫЙ У АЭРАПОРТАХ І НА ВАКЗАЛАХ...


...РАЗМОВЫ З КРЫНІЦАМІ, ЯКІЯ НІЧОГА НЯ ВЕДАЮЦЬ.


at 12:00 noon, however, he did not appear until
approximately 4:30 . m., when approximately 5 individuals
attended the firs ting consisting of the following
individuals:
У ТАКІЯ ТЫДНІ Я НЕНАВІДЖУ ПРАЦУ.
CLASSIFI
Exclude


Я БАЧУ, ЯК З КОЖНЫМ ДАКУМЕНТАМ, ШТО КЛАДЗЕЦЦА НА МОЙ СТОЛ, СПРАВА АСТЫВАЕ...
І ЎСЁ, ШТО Я РАБЛЮ – "ПАДКРЭСЛІВАЮ ВАЖНЫЯ ЧАСТКІ".


МЕНАВІТА ГЭТА ПЕРШ-НАПЕРШ ДАВОДЗІЦЬ МЯНЕ ДА БЯДЫ... ТАКАЯ ВОСЬ ФРУСТРАЦЫЯ...


ДЭЙЗІ, ГЭТА ЎСЕ РАПАРТЫ X-14 ЗА 72-І..?
ТАК, МЭМ, ЯКІЯ НЕАДРЭДГАВАНЫ...
ДЫРЭКТАР ГЭТА Ж ЖАДАЎ, ТАК ЖА?


АДНА З ГАЛОЎНЫХ ПРЫЧЫН, ЧАМУ Я Ў ВЫНІКУ АПЫНУЛАСЯ ТУТ, У ПРЫЁМНАЙ ДЫРЭКТАРА, – МАЯ ПАМЯЦЬ, ЯКАЯ АМАЛЬ ФАТАГРАФІЧНАЯ.
КАЛІ Я ШТОСЬЦІ САПРАЎДЫ ПРАЧЫТАЮ, ТО АМАЛЬ ЗАЎСЁДЫ МАГУ ЎСПОМНІЦЬ – СЛОВА Ў СЛОВА.


У ШКОЛЕ ГЭТА РАБІЛА МНЕ ШМАТ ПРАБЛЕМ. Я ВЫМУШАНА БЫЛА ПЕРАПІСВАЦЬ ТЭСТЫ ПАД НАГЛЯДАМ, ТАМУ ШТО Я ЦЫТАВАЛА ПРАМА З ЭНЦЫКЛАПЕДЫІ.
А ЦЯПЕР ШТОСЬЦІ **НЕ ДАВАЛА МНЕ СУПАКОЮ** Ў СУВЯЗІ З НЯДАЎНІМІ СПРАВАМІ Х-14...


Я ПРАГЛЯДАЛА ГЭТА МЕСЯЦ ТАМУ, АЛЕ ТАДЫ ГЭТА НЕ ЗДАВАЛАСЯ ВАРТЫМ. ПРОСТА ПУСТАЯ ГРАФА Ў СПРАВАЗДАЧЫ ПА ВЫДАТКАХ.
АЛЕ ПРЫ ПАЎТОРНЫМ ПРАЧЫТАННІ... ЦЭЛЫ ДЗЕНЬ ВЫПАДАЕ...


EYES ONLY
RECONNAISSANCE
ГЭТА АБАВЯЗКОВА ШТОСЬЦІ ЗНАЧЫЦЬ...
ТЭМПЛТАН, ЧЫМ ВЫ **ЗАЙМАЕЦЕСЯ**?


ШТО? ДРОБЯЗЬ, СЭР... ПРОСТА ПРАГЛЯДАЮ ШТОСЬЦІ...
НУ ДЫК І БОГ З ГЭТЫМ, АГУЛЬНЫ ЗБОР У **ЗАЛЕ НАРАДЫ**.


КОЛЬТ ТОЛЬКІ ШТО ВЯРНУЎСЯ З ФРАНЦЫІ... МЫ ВЕДАЕМ, ХТО ЗАБІЎ ДЖЭФА КЕЛЕРА.


БЕЗУМОЎНА, У НАШЫМ РОДЗЕ ДЗЕЙНАСЦІ НАВАТ ТОЕ, ШТО ПАВІННА БЫЦЬ ДОБРАЙ НАВІНАЙ, ХУТКА МОЖА ПАЙСЦІ ПРАХАМ…
ШТО ГЭТА, НЯЎДАЛЫ ЖАРТ?
КАЛІ Б **ТАК**, СЭР… АДНАК УСЁ ТУТ…


…Я ЗАЎВАЖЫЎ ЛАНКАСТЭРА Ў ПАРЫЖЫ ПА ПАД-РОБЛЕНЫМ ПАШ-ПАРЦЕ…
…ЁН ПАКІНУЎ ГОРАД МЕНШ ЧЫМ ПРАЗ ГАДЗІНУ ПАСЛЯ ЗАБОЙСТВА.
А ЯГО БАНКАЎСКІЯ РАХУНКІ АМАЛЬ ПУ-СТЫЯ, БЫЦЦАМ ЁН ПЕРАВОДЗІЎ ГРОШЫ Ў ШВЕЙЦАРЫЮ, ПЕРШ ЧЫМ ЯНЫ ЗНІКНУЛІ.
DIRK HANSEN
BRITISH PASSPORT
UNITED KINGDOM OF GREAT BRITAIN AND NORTHERN IRELAND
FRANK LANCASTER X-02
BANK of LONDON
Account No
Page 15
Withdrawn
Paid in
3.80
2.49
7.60
1.61
2.78


СЭР, БАЮСЯ, ГЭТА АДЗІНЫ СЦЭНАР, ЯКІ МАЕ СЭНС.
ГЭТА БЯССПРЭЧ-НА ТЛУМАЧЫЦЬ, ЧАМУ КЕЛЕР БЫЎ **ЗАСЦІГНУТЫ НЕСПАДЗЕЎКІ**.


**ЛАНКАСТЭР**..? ХІБА НЯ ЁН БЫЎ **ЗАЛА-ТЫМ ХЛОПЧЫКАМ** У ПЯЦІДЗЯСЯТЫЯ?
ТАК… І НЯ **РАДУЙЦЕСЯ** НАПЕРАД, СІМАНСАН…
КАЛІ ГЭТА ПРАЎДА, МЫ СТРАЦІЛІ ЗНАЧ-НА БОЛЬШ, ЧЫМ **АПЕРАТЫЎНІКА**…


ГЭТА НЕ МАГЛО БЫЦЬ ПРАЎДАЙ... І НАПЭЎНА НЕ АДНА Я ТАК ЛІЧЫЛА...
СЭР... ФРЭНК ЛАНКАСТЭР **НЕ** РАБІЎ ГЭТА...


МЫ АБОДВА ВЕДАЛІ ЯГО.
ЁН **НЯ** БЫЎ ЗДРАД-НІКАМ.
ТЭМПЛТАН, ЖАДАЎ БЫ Я З ВАМІ ЗГАДЗІЦЦА... АЛЕ ФРЭНК ВЫЙШАЎ **У ЗВАЛЬНЕННЕ** ДЗЕСЯЦЬ ГАДОЎ ТАМУ...


І МЫ ВЕДАЕМ, ШТО ЗДАРАЕЦЦА СА ШПІЁНАМІ, КАЛІ ЯНЫ ЖЫВУЦЬ ДАСТАТКОВА ДОЎГА, КАБ САСТАРЭЦЬ
ЯНЫ СТАНОВЯЦЦА **ЛЮТЫМІ**... П'ЮЦЬ БЯЗ МЕРЫ... ДЫ, УЛАСНА КАЖУЧЫ, ФРЭНК **І НЯ БЫЎ СВЯТЫМ**.


НЕ ЖАДАЮ КАЗАЦЬ, АЛЕ Я БАЧЫЎ, ЯК І **БОЛЬШ ВАРТЫЯ** ПЕ-РАТВАРАЮЦЦА...
ДЫ ВЫ І САМІ ЎСЁ **ВЕДАЕЦЕ**.




ВА ЎСЯЛЯКІМ ВЫ-ПАДКУ МЫ ДАВЕДА-ЕМСЯ ПРАЎДУ, КАЛІ СЯРЖАНТ **РОБЕРТС** ВЫСАЧЫЦЬ ЯГО.


АДКАЗ ДЫРЭКТАРА НАКШТАЛТ БЫЎ ДАПУШЧАЛЬНЫ... У ВЫНІКУ ЁН **МЕЎ РАЦЫЮ**...


ЛЮДЗІ, **АСАБЛІВА** ШПІЁНЫ, ЗДОЛЬНЫЯ НА ЎСЁ...
А ФАКТЫ, **ВІДАВОЧНА,** БЫЛІ НЕ НА БОКУ ФРЭНКА.


АДНАК... МАГЧЫМА **ТАМУ** СПРАВА НЕ ВЫХОДЗІЛА Ў МЯНЕ З ГАЛАВЫ.


**ФАКТЫ** Ж МОЖНА ПЕРАВЯРНУЦЬ ТАКІМ ЧЫНАМ, ШТО ЯНЫ СКАЖУЦЬ ТОЕ, ШТО **ВЫГАДНА** ВАМ.


І Ў ДАДЗЕНЫМ ВЫПАДКУ Я Б НЕ ДАРУЧЫЛА **РОБЕРТСУ** АДДЗЯЛЯЦЬ ФАКТЫ АД ВЫДУМКІ... НЯ Ў ГЭТЫ РАЗ.


ГЭТА ДРУГАЯ РЭЧ, ЯКАЯ ДАВОДЗІЦЬ МЯНЕ ДА БЯДЫ... НЯЗДОЛЬНАСЦЬ КІНУЦЬ УСЁ ЯК ЁСЦЬ.


АДНАК Я **ТАК** І НЕ ЗМАГЛА ЗАБЫЦЬ ДА КАНЦА МАЮ ЮНАЦКУЮ ЗАКАХАНАСЦЬ У ФРЭНКА ЛАНКАСТЭРА...


ХАЙ Я БАЧЫЛА, ЯК ЁН ПЕРАТВАРЫЎСЯ З АПЕРАТЫЎНІКА НАЙВЫШЭЙШАГА КЛАСА Ў АФІЦЭРА-ІНСТРУКТАРА... ШТО, УРЭШЦЕ, ЗРАБІЎ З ГОДНАСЦЮ.


ЗАБІЦЬ ДЖЭФА КЕЛЕРА БЫЛО Б РАЎНАВАЖНА ТАМУ, ШТО ЗАБІЦЬ **МАЛАДУЮ ВЕРСІЮ СЯБЕ**...
Я НЕ МАГЛА ЎРАЗІЦЬ, ШТО ФРЭНК МОГ СТАЦЬ **НАСТОЛЬКІ** БЯЗЛІТАСНЫМ.


І Я ЎСЁ ЎСПАМІНАЛА АПОШНІ РАЗ, **КАЛІ БАЧЫЛА ЯГО**, – НА ПРАВОДЗІНАХ У ЗВАЛЬНЕННЕ...


НАША РАЗВІТАННЕ БЫЛО НЯЗГРАБНЫМ, КАЛІ НЕ СКАЗАЦЬ **ЗЛЫМ**.
ЁН БЫЎ П'ЯНЫ, ВЕРАГОДНА, УЖО ШКАДАВАЎ ПРА СЛОВЫ, ЯКІЯ ЗЛЯТАЛІ З ЯГО ВУСНАЎ...
АДНАК ПАЧУЦЦІ, ЯКІЯ ХАВАЛІСЯ ЗА ІМІ, БЫЛІ САПРАЎДНЫЯ.


БЫЛО **БОЛЬНА** ЎСВЯДОМІЦЬ, ЯК ЁН **РАСЧАРАВАЎСЯ** Ў МНЕ.


ТАМУ НЕ, Я НЕ МАГЛА ВЫКІНУЦЬ ГЭТА З ГАЛАВЫ, КАЛІ АДНАГО З НЯМНОГІХ, ХТО ВЕДАЎ МЯНЕ ПА-САПРАЎДНАМУ, ВЫСТАВІЛІ **АХВЯРНЫМ КАЗЛОМ.**


ЯШЧЭ Ў ПАЧАТКУ 50-Х ФРЭНК ПАКАЗАЎ МНЕ НЕКАЛЬКІ МЕСЦАЎ, ПРА ЯКІЯ НЯ ВЕДАЛА КАНТОРА.
СХОВІШЧЫ НА ВЫПАДАК, КАЛІ ЎСЁ АДНОЙЧЫ АБЯРНЕЦЦА КЕПСКА.


УЖО ТАДЫ ЗАЎСЁДЫ ЗДАВАЛАСЯ, ШТО ТАК ЯНО І БУДЗЕ.
БОЖА...


У ЛЕПШЫМ ВЫПАДКУ ГЭТА БЫЎ СТРЭЛ НАЎГАД, ШТО ЁН БУДЗЕ Ў АДНЫМ З ІХ... АДНАК НІХТО Ў АГЕНЦТВЕ НЯ СТАЎ БЫ ШУКАЦЬ ТУТ.


ТАМУ, МАГЧЫМА, Я ДАБЯРУСЯ ДА ЯГО ПЕРШАЙ, ДАВЕДАЮСЯ, ЦІ ЁСЦЬ **ПРЫЧЫНА**, ЧАМУ ЯГО ЎЦЯГНУЛІ Ў ГЭТА...
ВЫСВЕТЛЮ, ЗЛУЧАНЫ З ГЭТЫМ ЗНІКЛЫ ДЗЕНЬ З ЖЫЦЦЯ ДЖЭФА КЕЛЕРА...


ГЭТА АПОШНЯЯ РЭЧ, ЯКАЯ ДАВОДЗІЦЬ МЯНЕ ДА БЯДЫ...
ФРЭНК? ТЫ ТУТ?


Я ТАК ТУРБАВАЛАСЯ, ШТО ФРЭНКА ПАДСТАВІЛІ...
ФРЭНК?


...ТАК ЗЛАВАЛАСЯ З-ЗА ЗАБОЙСТВА Х-14...
О БОЖА...


ШТО МНЕ НАВАТ У ГАЛАВУ НЕ ПРЫЙШЛО...


...ФРЭНК НЕ **АДЗІНЫ**, КАГО ПАДСТАЎЛЯЮЦЬ.


SKA-FOOOM
ЧОРТ!


**СТАЯЦЬ**, ТРАСЦА ТАБЕ Ў БОК!
ТЫ, **ДА ЛІХАМАТАРЫ**, АРЫШТАВАНА...


...**ВЕРАЛОМНАЯ** КУРВІСКА.
ПАЧА-КАЙ... ПА-ЧАКАЙ...


РОБЕРТС... ПАСЛУХАЙ МЯНЕ...
ПАКУЛЬ УСЁ НЯ СТАЛА ГОРАЙ, ДАЗВОЛЬ МНЕ СКАЗАЦЬ УСЯГО АДНУ...
ГОРАЙ?!

ТЫ, ДА ЛІХАМАТАРЫ, ЗУСІМ ЛЯСНУЛАСЯ!
ГОРАЙ УЖО НЯМА КУДЫ, САКРАТАРКА!

НЕ... ЁСЦЬ.


ГАХ... УННХ...


Я ДАЎНО ЎЖО ВЫЙШЛА СА СПРАВЫ... І ГЭТА КУДЫ СКЛАДАНЕЙ, ЧЫМ Я ПАМЯТАЮ...
АДНАК У МЯНЕ БЫЛА **АДНА ПЕРАВАГА**...


ЯНЫ НЯ ВЕДАЛІ, **КАГО** ЗНОЙДУЦЬ ТУТ.
РОБЕРТС ВЫДАЎ ГЭТА, КАЛІ ПАДЫЙШОЎ ВЕЛЬМІ БЛІЗКА, КАЛІ ПРАІГНАРАВАЎ МЯНЕ.


ЁН МЕРКАВАЎ, ШТО Я **ЦІХА** ЗДАМСЯ...
**НЕ! НЕ СТРАЛЯЦЬ!**
ЯНА ПАТРЭБНА **ЖЫВАЯ!**


У ПАЛЯВАННІ НА КРАТА РАЗЛІК ТАКІ: НЯВАЖНА, ВІНАВАТЫ ТЫ ЦІ НЕ...
ТЫ ВЕДАЕШ, КАЛІ ТРАПІЎ ПАД ПРЫЦЭЛЫ...


І РАЗУМЕЕШ, ШТО ЖЫЦЦЁ БУДЗЕ РАЗБУРАНА, КАЛІ НЕ СУПАКОІШСЯ... НЯ БУДЗЕШ КІРАВАЦЦА ПРАТАКОЛАМ.










МАЁ САПРАЎДНАЕ ЖЫЦЦЁ ПАМЕРЛА ДАЎНЫМ-ДАЎНО.

# ПРАЦЯГ БУДЗЕ